PAŠAUKIMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

▼▼▼▼

№ 6 (8) 1-га Кастрычніка—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

P. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

Страніца.

# Пакліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „B-vė Knyga“, Laisves al., 52.**

№ 6 (8). 1-га КАСТРЫЧНІКА—1926 г. Коўна.

*А. Палын.*

На 5-ці угодкі істнаваньня

## БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ

ў Менску.

(Кастрычнік 1921 г.—Кастрычнік 1926 г.)

Пяць гадоў таму
маяк веданьня
засьвяціў—зазьяў
над Нямігаю;
да сябе маніць
навук промнямі
і надзеі лье
ў сэрцы моладзі,
што на бурны шлях
барацьбы—жыцьця
ў акіян—народ
адпраўляецца,
з цёмнай хваляю
яго ворагаў
барацьбу вясьці
абракаецца

і, ідучы ў бой
з цемрай—ворагам,
веды броняю
засабляецца.
Ў маяку навук
прамнём—ведаю
розум моладзі
запаляецца,
і валвісты шлях
змагароў—плаўцоў
яго факелам
асьвятляецца.
Беларусі ўсход
асьвятліў маяк
веды полымем
і збудзіў народ,

што стагодзьдзі спаў
пад ярмом турбот,
аб сабе ня знаў
і праз доўгі сон
на'т забыўся ўжо,
што вялікім быў
і асьвечаным...
Беларус—Менчук,
паноў выгнаўшы,
у сваёй зямлі
гаспадарыць стаў.
А каб зноў паном
не зьняволіцца,—
ведай—сілаю
узбраяецца;
свае здольнасьці
разьвіваць пачаў,
каб сабой умець
кіравацціся,
каб ад беднасьці
ўратаваць свой край,
дабрабыт людзей
каб палепшыці;
каб, узмоцніўшысь,
братом Захаду
памагчы здабыць
волю—матаньку
і пазбавіцца
польскай паншчыны...
Расквітае Ўсход
пад цяплом навук,
што маяк ліе
з свайго сьветачу,
да сябе маніць
наш увесь народ,
што к сьвятлу ідзе
з цемнаты жыцьця...
Дык сьвяці-ж, маяк,
сваім факелам,
асьвятляй зямлю
Беларускую!
Няхай наш народ
з жыцьця бурнага
да цябе ідзе
шукуць помачы,
няхай наш народ
ў жыцьця непагадзь
на тваё сьвятло
сабіраецца,
няхай з веку ў век
перамогі сьцяг
на чале тваём
развяваецца...

# Літоўска-Савецкі дагавор і яго перспэктывы.

28. IX. сёл. г. у Маскве падпісана ўмова—гарантыйны пакт паміж Літвой і СССР. Поўны тэкст умовы чытачы знойдуць ніжэй. Гэта ўмова падгатаўлялася ўжо даўно,—ў галоўных сваіх рысах яна была распрацавана яшчэ папярэднім урадам. Затрымлівалася падпісаньне ўмовы, дзякуючы вырынуўшым наўкола яе махінацыям рожных вялікіх палітычных чыньнікаў, жадаўшых уцягнуць Літву ў кола дзяржаў, скіраваных супроць СССР (за кошт сваіх вялікіх пакравіцеляў) —аружнае змаганьне з Саветамі.

Умова ад 28—IX сёл. г. (нібы мячом, як той Гордзіеў вузел) рассекла, развеяла палітычную блутаніну на ўсходзе Эўропы. Умова робіць новыя падваліны, новы фундамэнт міру на ўсходзе; бо зацеі імперыялістычных хіжакоў пажывіцца ў мутнай вадзе—пасьпекуляваць крывёй паўстаўшага да новага жыцьця народу, апынуліся ў куды цяжэйшых варунках для свайго зьдзейсьненьня.

У артыкулах 2, 3 і 4, памянёнай умовы, гаворыцца, што дагаворваючыяся стораны абязуюцца шанаваць сувэрэнітэт, тэрытарыяльную суцэльнасьць адзін другога; будуць устрымлівацца ад агрэсіўных выпадаў і не браць удзелу ў эканамічным альба фінансавым байкоце, скіраваным кім-колечы супроць аднэй з дагаворваючыхся старон.

Гэтыя артыкулы ўмовы важны для абедзьвёх старон,—яны выяўляюць новыя падставы для міжнароднага сужыцьця.—Ў міжнарадовых адносінах дзяржавы не павінны ўжываць якога-колечы гвалту, надужыцьця. Ад такіх надужыцьцяў пацярпела Літва, Беларусь і Украіна. Гэткія надужыцьця падгатаўляліся і цяперака, ізноў-жа з дачыненьнем той самай Польшчы Пілсудзкага.

Стары сьвет—старыя вялікія дзяржавы не жадаюць мірыцца з новымі варункамі жыцьця. Апанаваўшы, амаль, усім сьветам, абярнуўшы народы Афрыкі і Азіі ў свае каленіі, стары мір хоча зрабіць сваёй каленіяй і народы былой Расеі. Па-перш, яго непакоіць гаспадарчая адбудова гэтых краін, па-другое, стары сьвет палохаецца, што пагвалчаныя ім народы,

бяручы прыклад з народаў былой Расеі, скінуць чужацкае панаваньне і не дадуць магчымасьці і надалей эксплётаваць сябе.

Што-ж дзіўнага, што стары сьвет уселякім спасобам стараецца зруйнаваць Саветы.—Ен падрыхтоўвае вайну, але не сам жадае яе весьці, не,—бо ведае наскольні вайна руйнуе дабрабыт краіны, прыймаючай ў ей удзел, і потым вайна вельмі не бясьпечная справа, бо пасьля вайны вельмі часта вынікае рэвалюцыя. Старыя дзяржавы рыскаваць—распачынаць вялікую вайну ня хочуць. Яны робяць прасьцей—наймаюць ахвотнікаў. Найбольш паддаецца дзеля гэтай справы Польшча з яе даводцам Пілсудзкім (які зрабіўся прыслухачом ангельскіх палітыкаў). Ангельцаў цікавіць нястолькі проблематычная магчымасьць польскай перамогі, скольні для іх важна дабіцца руйнацыі (як эканамічнай, так і палітычнай) тых народаў, на якіх яны яшчэ не патрапілі налажыць сваю дужую лапу.

У кумпанію да Польшчы падгаворвалі Прыбалтыцкія дзяржавы і Румынію, каб разам усіх падбухторыць—натравіць на Саветы. А потым, як тых перадраўшыхся абязсіленых петухоў, схапіць за горла і прывалачы на стол ангельскай буржуазеі.

Літва рашуча адкінула гэткія захады.—Літва жадае міру і справедлівасьці. Літва не пажадала, з аружжам у руках, дамагацца ад дзяржаваў Савецкага Саюзу кантрыбуцыі ці адступных.

Хвала пачуцьцю і такту кіраўнікоў Літоўскага Ураду!

Літва з пераконаньнем стала на новы шлях мірнага сужыцьця, і гэтым пераблутала разрахункі імперыялістаў. Літва сама мае вялікія страты ад хіжацкага імперыялізму і гэтыя страты выразна адзначаны як у самай умове, так і асабліва ў ноце Чычэрына на імя прэм'ера Сляжэвіча: „Граніцы Літоўскай дзяржавы, супроць волі літоўскага народу, парушаны“.

Закранутая умовай Віленская справа робіць самую ўмову яшчэ больш цікавай. Умова зьявілася новым сьведчаньнем таму, што літоўскі народ мае волю для далейшай абароны сваіх пагвалчавых правоў. Аб літоўскіх правох пачала гаварыць сіла, а належна скіраваная сіла ёсьць найлепшы рэзанатар права.

Для нас беларусоў умова зьяўляецца яскравым доказам супольнасьці літоўска-беларускіх інтарэсаў; зьяўляецца сьведчаньнем таму, што мір на ўсходзе немагчым без улагоджаньня правоў народаў, пагвалчаных захватніцкай чыннасьцьцю польскіх палітыкаў,—што для ўцелаішчаньня запраўднага сталага міру (якога таксама вымагаюць гаспадарска-дзяржаўныя інтарэсы Польшчы) Польшча павінна пазбавіцца сваіх хімерычных, ганебных зацеяў—быць жупеламі кровасосам сваіх суседзяў.

Паўстаўшыя да самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага істнаваньня, народы ўсходняй Эўропы павінны сваю будучыну будаваць на здаровых падставах—на падставах добрасуседскага сужыцьця і справедлівасьці. Польшча паспрабавала сваю будучыну, будаваць на заборчасьці, ашуканстве „на сваяўстве і кумаўстве“ з вялікімі міра сяго. Мы бачым, да чаго давяло Польшчу гэтае „кумаўство“.—Уваскросшая Польшча зрбілася „гіблым мейсцым“, пагражаючым ня толькі сабе, а і сваім суседзям. „Зьнятая з крыжа“ Польшча стала катам, турмой сумежных народаў. Польшча жыве настроямі мінуўшчыны,—ў сваім летаргічным сьне яна кіруецца ідыялямі мінулых стагодзьдзяў—Польшча прызвычалася панаваць над „быдлам“. Але ў сучасным жыцьцю зьнікаюць ня толькі Белавежскія зубры, зьнікае і „быдла“. Працэс нацыянальна-палітычнага і соцыяльнага ўсьведамленьня дае і дасьць свае консеквенцыі, свае вынікі. Польшча хутка заўважыць і адчуе, што панаваць не над кім. Польшча пераканаецца, што дзякуючы сваім мрыям апанаваньня над суседзямі, яна адстае ў тэмпе гаспадарска-эканамічнага разьвіцьця. Распачаўшыяся з прыходам да ўлады Пілсудзкага (жадаючага зрабіць з Польшчы рынак для ангельскай індустрыі) гутаркі аб агрэрызацыі Польшчы—гэт memento mory банкрутства ідэі панаваньня. Паскольку суседзі Польшчы не будуць патворстваваць самзгубным імкненьням, паскольку не паддадуцца на правакацыю аружных выбухаў: пастольку працэс прабуджэньня, выцьвярожваньня пойдзе больш хуткім тэмпам,—Польшча сама будзе шукаць сродкаў, каб пазбавіццн ад гвалтоўна захопленых абшараў, стаўшых тормазам для разьвіцьця, для яе дзяржаўнага дабрабыту.

*Пуцята.*

# Поўны тэкст Літоўска-Савецкага дагавору.

Паміж Літвою і СССР утворана умова наступнага зьместу:

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з аднаго боку, і прэзыдэнт Літоўскай Рэспублікі, з другога боку, ўпэўняныя што інтарэсы народаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Літвы патрабуюць заўсёдашняга супрацоўніцтва, аснаванага на даверыі, і ў мэтах узаема дапамогі, ў памеру сваіх сілаў, для падтрыманьня агульнага міру умовіліся заключыць дагавор для разьвіцьця добрасуседскіх адносін, істнуючых паміж імі, і дзеля гэтай мэты назначылі сваімі ўпаўнаважанымі:

**Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік:**

**Георгія Чычэрына,** сябру ЦИК Саюзу ССР народнага камісара на замежным справам, і **Сяргея Александроўскага,** паўнамочнага прэдстаўніка СССР у Літве, і **прэзыдэнт Літоўскай Рэспублікі:**

**Міколаса Сляжэвічуса,** міністра-прэзыдэнта, міністра справедлівасьці і выпаўняючага абавязкі міністра замежных спраў Літоўскай Рэспублікі, і **Юргіса Балтрушайціса,** надзвычайнага пасланніка і паўнамочнага міністра Літоўскай Рэспублікі, якія спаткаліся ў Маскве і па разглядзе сваіх паўнамоцтваў, знойдзеных у належнай форме і ў законным парадку, прынялі наступныя пастановы:

Арт. 1.

Мірны дагавор паміж Расеяй і Літвою, заключаны ў Маскве 12 ліпеня 1920 году, ўсе пастановы якога захоўваюць усю сваю моц і недатычнасьць, застаецца асновай адносін паміж Саюзам Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Літоўскай Рэспублікай.

Арт. 2.

Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Літоўская Рэспубліка узаемна забавязываюцца уважаць пры ўсіх абставінах суверэнітэт і тэрыторыяльную суцэльнасьць і недатычнасьць друг друга.

Арт. 3.

Кожная абедзьвёх дагаварваючыхся старон абавязываецца ўстрымліавацца ад якой-бы то ні было агрэсіўнай чыннасьці супроць другой стараны.

Ў выпадку, калі-б адна з умаўляючыхся старон, нягледзячы на свае міралюбівыя паводзіны, падтверглася нападку з боку аднае ці некалькіх трэйціх дзяржаваў, другая дагаворваючаяся старана абавязываецца не аказваць падтрымкі гэтай аднай ці некалькім трэйцім дзяржавам ў іх барацьбе супроць падвергнуўшайся нападку умаўляючайся стараны.

Арт. 4.

Калі паміж трэйцімі дзяржавамі будзе зроблена палітычная ўгода, накіраваная супроць адной з дагаворваючыхся старон, альба калі ў зьвязку з канфліктам памянёнага ў арт. 3, 2 абзаце, характару, альба-ж, калі ні адна з умаўляючыхся старон ня будзе замешана ў аружных стычках, будзе зроблена паміж трэйцімі дзяржавамі кааліцыя з мэтаю падвергнуць эканамічнаму ці фінансаваму байкоту адну з умаўляючыхся старон, другая дагаворваючаяся старана да гэткай угоды ці да гэткай кааліцыі прымыкаць ня будзе.

Арт. 5.

У выпадку распачацьця канфлікту паміж імі, дагаворваючыяся староны згаждаюцца назначыць угодлівыя камісіі на выпадак, калі не ўдалося вырашыць канфлікту дыплёматычным шляхам.

Склад названых камісіяў, іх правы і працадура, якою яны будуць сьледаваць, будуць апрацаваны асобаю ўмоваю, маючаю быць устаноўленаю.

Арт. 6.

Гэты дагавор належыць ратыфікацыі, якая павінна быць зроблена ў працягу шасьці тыдняў ад дню яго падпісу. Абмен ратыфікацыённых грамат будзе зроблен у г. Коўна. Дагавор складзен на расейскай і літоўскай мовах. Пры тлумачэньні яго абодва тэксты лічацца аўтэнтычнымі.

Арт. 7.

Гэты дагавор уступае ў сілу з моменту абмену ратыфікацыйннымі граматамі і будзе знаходзіцца ў сіле на працягу пяці год, за выняткам артыкулаў 1 і 2 гэтага дагавору, тэрмін моцы якіх неакрэслян.

Моц гэтага дагавору будзе прадоўжана аўтоматычна кожны раз на адзін год, калі адна з дагаворваючыхся старон, у меншай меры за 6 месяцеў да аканчаньня тэрміна дагавору, не выявіць жаданьня аб распачацьці перагавораў аб далейшай форме палітычных узаемаадносін абедзьвёх дзяржаў.

У пасьведчаньне гэтага ўпаўнаважаныя ўласнаручна падпісалі даны дагавор і замацавалі яго сваімі печаткамі.

Подлінны складзен і падпісан у Маскве ў двух экземплярах верасьня дваццаць восьмага дня тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага году.

**Г. В. Чичэрын, Сяргей Александроўскі,**

**Міколас Сляжэвічус, Юргіс Балтрушайціс.**

## Савецкая нота.

Міністру Прэзыдэнту, міністру справедлівасьці і выконваючаму абавязкі міністра замежных спраў Літоўскай Рэспублікі

**Мікалаю Сляжэвічу.**

Гаспадзін Міністр!

У зьвязку з падпісаньнем гэтага дагавору паміж СССР. і Літоўскай Рэспублікай маю гонар давясьці да Вашага ведама ніжэйпаданае:

незменна кіруючыся жаданьнем бачыць літоўскі, як і ўселякі іншы, народ незалежным, аб чым Урад СССР колькі разоў зазначаў у сваіх выступленьнях, а таксама, згодна ноты Савецкага Ураду ад 5 красавіка 1223 г. на імя польска ўраду і сымпатыямі, якія выяўляюцца да судзьбы літоўскага народу сярод грамадзкай думкі працоўных СССР, Саюзны Урад зазначае, што фактычнае парушэньне літоўскіх граніц, адбыўшаеся супроць волі літоўскага народу, не пакалебала яго адносін да тэрыторыяльнага сувэрэнітэту, акрэсьлянаму арт. 2 і увагай да яго мірнай умовай паміж Расеяй і Літвой ад 12 ліпеня 1920 г.

Прымеце, г. Міністр, адзнакі маей глыбокай пашаны.

**Георгі Чычэрын.**

Масква, 28 верасьня.

*Януш Косьцевіч*
літоўскі беларус з Палангі

# ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА ВІТАЎТА.

## ВАЕННЫ ПАХОД НА КРЫМ—ШУКАЦЬ ВЫХАДУ ДА ПАЛУДЗЕННАГА МОРА.

(Працяг).

### IV. Пад Перакопам.

Аб Літве, аб Князю Хан чуў многа сказу,
Ен скіпеў ад Княжскага срогага наказу.
Бэй на ваяводу зразу напусьціўся,
Што з гэткім наказам да яго з'явіўся.
Сьмелы ваявода ў гэным не паддаўся,
Пагроз Бэя й Хана а ні' не зьлякаўся.
Тыя ваяводу пакрыўдзіць хацелі:
У склеп, падзямельле садзіць яго мелі.
Доўга аб літоўскіх парадках пыталі,
Й вайсковую раду вечерам сабралі.
Хан быў цар вялікі, ды краям не правіў—
Ад сябе над краям ён Бэя паставіў.
А той, як зьвер люты, на ўсіх накідаўся,
Пакуль з ваяводам нашым ня спаткаўся.
І кажа Хан: „Ў полі не хачу змагацца,
„Лепей будзе з Князям пачаць таргавацца—
„Аб зямлі і моры мусім згаварыцца
„Дый спакойна з Князям на тым заміріцца".

Аж Бэй на то Хану ў радзе гэтак кажэць:
„Няхай, Ваша Міласьць, на тое разважыць:
„Лепей-жа мы Князя адгэтуль прагонім,
„Лепей яго войска сабе запалонім,
„Увесь сьвет аб гэтым тады ўразумеепь,
„Што Крым, калі трэба, ваяваць умеець.
„А раз Ваша Міласьць, аддасі ім мора,
„То другі з суседзяў будзе у нас скора.
„Аб нас пойдзе ўсюды нядобрая слава.

„Бяз вайны, я мысьлю, на скончыцца справа.
„Князь Вітаўт і гэна, мусіць, мала знаець,
„Што Хан і цар Крымскі верх над Князем маюць,
„Бо званьнем і чынам ён ня раўня Хану,—
„Трэба ваяводу гнаць з нашага стану!
„Каб яго і званьня тут у нас ня была—
„Да вайны найдзецца патрэбная сіла!

Пачалі сварыцца дый рабіць пршкоды
Для пасланца Князя—таго ваяводы:
То яго татары з Крыму дамоў гналі;
А як хацеў ехаць, дык яго трымалі;
Бэй дык той хацеў бы ваяводу з'есьці,
Бо ён ні Літоўскай, ні князяўскай чэсьці
Не панізіў у Радзе, Княжскага наказу
Пільнаваўся моцна, ня здрадзіў ні разу.

Хітры Бэй адказ даў пасланцу ад Хана:
„Хан мне казаў гэтак, і воля мне дана
„Паведаміць Князя, што нідзе ні разу
„Сусед да суседа не даваў наказу:
„Аддасі мне землю, аддасі мне мора!"
„І яны дадуцца, мысьлю, ня так скора.—
„Чулі, што Князь здольна ваяваць умеець,
„Але, мне здаецца, з часам пажалеець,
„Што, куды ня трэба, кінуцца прышлося,
„Што у нашу зямельку прыйсьці удалося.
„Бо мы дык і сілу і моц сваю чуем,
„Хоць і ня так часта з іншымі ваюем.
„Дый шанаваць Хана ня шкодзіла-б Князю,
„А то дрэнных рэчаў шмат ёсьць у наказе.
„Мы—крымскія людзі—сіл сваіх жалеем,
„Але, як прыдзецца, ваяваць сумеем.
„Уся Арда пойдзе, ў патрэбе, за намі,
„Дык нам няма страху біцца з Літвінамі.
„Мы біцца патрапім і Князя пагонім,
„Усю Яго сілу у Крым запалонім.
„Дык няхай Князь помніць сваю вайну з Ханам,
„Дый добра абсудзіць, што з вялікім панам
„Ен тут каля мора неўзначай счапіўся,

„Дый, каб часам, у гэтым ён ня памыліўся.
Гэта ўсё ад сэрца Бэй для Князя кажыць,
Няхай сам князь лепей аб усім разважыць.

Гэткі адказ Бэя ваяводзе далі
Дый ехаць да Князя з Крыму загадалі.

Літвін—ваявода час не правеў дарам:
Тым, што пры урадзе служылі, татарам
Нагаварыў: „Можа, і вайна настане
Ды, можа, народ Бэй мучіць перастане“.
Аж яму шмат важных расказалі рэчы:
Што Бэй то нязносны вораг чалавечы,
Што вайны ўсюды у Крыму чакаюць,
Што Бэя найпервей самі забіць маюць,
Што нашага Князя дык ждуць ня дождуцца,
Што чамбулы самі Князю пададуцца,
Што няма пад Князям ніякай няволі,
Што няма жыцьця ім ад Хана ніколі,
Што вельмі давольны, вельмі рады будуць,
Калі Літвіны іх у вайне здабудуць,
Што у вайне ня будуць, проціў Літвы біцца,
Бо шчыра жадаюць Літве пакарыцца,
Што Крым свой пакінуць яны ўсе гатовы,
Калі Князь ім зможа даць прытулак новы.

Дык гэта ўсё чынна сказаў ён грамадзе,
Што была у Князёўскай вайсковай нарадзе.

Пашлі у разьведку пад'езды, падходы—
Узнаць Бэя сілы, мейсцы, пераходы.
І адтуль дзень кожны у стан Князя гналі
Тых людзей, што ў полі у палон забралі.

Князь ужо дакладна аб Бэю сам ведаў,
Дзе ён жыў, дзе езьдзіў, дзе спаў, дзе абедаў.
Праз колькі дзён блізка зыйшліся у полі,—
Ўсякай сілы мелі абодвы даволі.

## V. Вайна.

Наказ Князь даў гэткі сваім ваяводам:
З усіх мейсц на Бэя наступаць паходам
Дый каб і падмога недалёка была,

Калі дзе наскочыць вялікшая сіла.
У бойцы, як можна, трымацца парадку,—
Найбольш у моцных нападах на самым пачатку.
Пачатак дык часта і канец варожыць,
Хто зробіць ход дрэнны, той працы даложыць.
Дык трэба праворна дый чынна узяцца,
Бо шмат нам, яквідаць, трэба пацягацца.
Няхай-жа і нашы войскі гэта знаюць,
Як лепш усе робяць, што рабіці маюць.

Конніца напрэцца—рагаціны ставіць,
Ворага адразу павярнуць заставіць;
А тут з палашамі нашыя наскочаць,
Пакуль той зьвернецца, ў другі бок заскочаць,—
Сякерай дый дзідай трэба хваціць сьмела,
А як усё ў кучу вайна завярцела,
Прыканчывай цепам—ён не ашукае.
Апошні дзень вораг свайго жыцьця мае,
З-пад цэпа дык рэдка хто жыў астанецца;
Але-ж то праворна ўсё рабіць прыдзецца.

Зыйшліся у полі дзьве сілы магучы,
Падняўся пыл ў полі, як ад грознай тучы,
Конніца татараў, прыспусьціўшы пікі,
Як саранча пёрла радамі бяз ліку,
На кіяўлян проста праз поле ляцела—
Урэзацца клінам і зьмяць іх хацела.

Кіяўская помач у першы бой стала,
Рагатнікам працы было тут нямала.
Бэй бачыць, што Кіяў даў помач для Князя,
Дый на іх і сілу паслаў ўсю адразу.
Кіяўляне крыху назад падаліся,
Рагаціны ставіць нашыя ўзяліся.
Конніца адразу мяшацца пачала,
Кальчужных літоўцаў надбегла нямала,
Цясельшчыкі гурмам у бой уступілі—
Сякерамі коней і людзей рубілі.
Як віхар падняўся галас па ўсём полі,
Але завіруху стаў рабіць найболей

Сьвіст цапоў жалезных, што людзей зьбівалі.
Ужо і забітых сьцяг ляжаў нямалы,
Кроў з людзей і коней дык цурком сачыла;
А сонца ў палудню—на бойку глядзела
А цапы, куды кінеш толькі сваім вокам,
Малоцяць ўсё гэны частым цьвёк за цьвёкам.
Дзяцюкі дык сілы сваёй ня жалеюць—
Ворага, чым могуць, ўсё паруць ды грэюць.

З блізкага узгорку і сам Бэй з'явіўся,
Праўду сказаць, важна і хвацка ён біўся.
Сонца ўсё на захад пачало спушчацца.
Бэй паслаў падмогу, сам кінуў змагацца.
Конніца татараў з сьвістам ўсьцяж няслася
Уступкай, ды наша ім ня паддалася.
Адзін на другога, быццам, зьвер кідаўся—
Палашом, ці пікай проста на сьмерць драўся.
Дасюль Князь з дружынай на ўзгорку стаялі,
Ўсе сілы на полі тут-жа ваявалі.
Дружына пры Князю дык мела строй новы:
Мядзьвежы накідкі, са шлемам галовы,
Палашы у сажань дый гостры як брытва.
І як пайшла з Бэям крывавая бітва,
Дык Князь і дружына бакавы ход ўзялі
І чэсаць палашом ворага пачалі.

Людзі, як калосься, гнуцца пад касою,
Дружына пры Князю прэць моцнай сьцяною,
Віхрам, гураганам па полю нясецца
І, як толькі можаць, да упаду б'ецца.

Крый Божа, у полі які крык пачаўся—
Татарын усюды, дзе як мог, кідаўся,
Зьмяшаліся гоман, трэск ўселякай броні,
Грудамі ляжалі і людзі і коні.
Татары са страху ў стэп уцякаць сталі,
Бо іх к Перакопу нашы ня пушчалі;
З вечара занялі у Крым ўсе дарогі,
Каб адтуль ня даў Хан ніякай падмогі.
Бэй праклінаў, лаяў, пасвойму галакаў

Са злосьці сваіх біў, пасьля заплакаў.
Аж адзін с татараў шабляй яго сьвіснуў,
Ен з каня скаціўся і больш ані пікнуў.
У стэпі іх сілу усю разагналі,
Ў дагонку ім з поля многа сіл паслалі.
Авул дык нам позна сам бяз бойкі здаўся,
І там Князь з дружынай начаваць застаўся.
Дзён колькі па стэпу нашы татар гналі,
Многа парубілі, мно ў палон узялі.

А пад Перакопам ўзялі ваяводу,
Што шукаў да Крыму з конніцай праходу,
Усё гэна войска Літве паддалося
І служыць пад Князям у нас засталося.

Хан новаго Бэя у Перакоп назначыў,
Шле яго да Князя, каб прасіў, тлумачыў,
Што вайну пачалі проціў Ханскай волі,
Што ваяваць з Князям ня будзе ніколі,
Што можна зямлі ўзяць, браць подступ да мора
І што Хан праз Бэя маець много гора,
Што з Князям і сам Хан думаў прымірыцца,
Што сам і ня мысьліў з Літвою сварыцца,
Што людзей і коней, аружжа даць можа
Князь сам, колькі ў Крыму знайсьці сабе зможа.

Прынясьлі зялены свой сьцяг Магамета
І сваёй прысягай падцьвердзілі гэта.

А Князь дык прысягу Літоўскую нашу
Злажыў на каштоўным, на сваім палашу.
Палаш з похвы выняў, аберуч ўчапіўся
І пры ўсём народзе з Ханам пагадзіўся.

Мір з старон абедзьвёх людзям абвесьцілі,
І мы і татары вельмі рады былі.

(Канец будзе).

1926. V. 26.
Паланга.

*М. Бяздольны.*

# Матчын сон

**(апаведаньне).**

Сьвежы травеньскі дзень. Сонейка высока ўзыйшло на неба і цёплымі, ажыўляючымі праменьнямі асьвешчала зямлю., Вецер ціха сапеў, і пад яго сап калыхаліся зялёныя нівы. Высокае жытця, калосься якога яшчэ так горда узіраліся ў неба, калыхалася жывымі хвалямі. А між яго сінімі крэпкамі як-бы хаваючыся ад чужога вока, крадкам выглядалі васількі. Ў траве, ўбранай рожнымі кветкамі, хаваліся то ізноў выпаўзалі бужукі. Пчолы хорам леталі ад кветкі на кветку, сабіраючы салодкі мёд. І ўвесь свет, нібы забыўшы мінуўшчыну і асушыўшы вочы, з якіх нестрымана так доўга цяклі сьлезы, быў вясёлы. Не! Гэта толькі прырода загладжвала шлях, па якому з горкай жальбай і вялікай крыўдай на долю ішоў люд з заплаканымі вачмі з пытаньнем „Ці прыйдзе калі канец усім цярпеньням“?... А доля, як-бы сьмеючыся над усім гэтым, будуе новыя горкі, нясе новыя цяжары і сум, капае далы...

Вось ўжо каля занова адбудованай вёскі, высокі на яе канцы стаіць белы крыж. Вартуючы, ён сумна глядзіць у бязмежную галубую выж. Зелёная траўка прыгожа ўбрала магілку, і кветкі цвітуць, ківаючы галоўкамі. А ў вачах слёзы блышчаць крышталам на сонцы... Тут сьпіць старая маці. Жыхары пажадалі пахаваць яе каля вёскі, каб заўсёды памятаць гора матчынае—гора людское.

Уся адбудованая веска і цяпер нібы і бачыць, як сумуе старая маці, стогнець дзень і ноч аб сыночку, якога яна з такім каханьнем і пяставаньнем успаіла і ўскарміла. А колькі сьвятой працы яна паклала на яго, каб ўзгадаваць у ім добрае дзіцянё, падмогу і надзею ў дні сваёй старасьці! Колькі цёмных ночкау над яго калыскай, схіліўшы свае плечы, яна змораная сядзела над ім з аднальковай, ціхай і жаласлівай песьняй „Сьпі дзіцятка дарагое!.. Яна відзіць яго, сваё каханае дзіцянё, яго кожны крок, яго вясёлы бязрупатны сьмех, яго дзіцячыя забавы.

Так вырасла дзіцё пад добрай апекай маці:—слухмянае, лагадлівае. Ніколі кепскім словам і злым учынкам ён не зас-

муціў сэрцэ яе. У працы быў працаўнік, а ў час, калі угледзіць на твары старое маці хвальку смутку, ён прыходзіў да яе, ўцешаў лагадлівымі словамі. І не раз ён бачыў крадкам зляцеўшую сьлязу з воч гарамычнае. І грудзь яго сьціскалася да самага сэрца і палыкаў ён слезы, каб больш не засмуціць яе. А толькі ў глыбіні гэтых добрых вочаў, віднелася вялікая горач,—нямое сапакутаваньне, якое не вылівалася наружу.

Матчына трывога хутка зьмянілася ракавой бядой.

Доўгая бяз конца вайна распалялася ўсё большым ды большым пламеньням. Пераходзіла з году ў год, захопліваючы ўсё большыя і большыя абшчары ў пекла пакуты. Прыйшоў чарод і да гэтага добрага сына: яго забралі... І у сэрцы старое маці паўстала большая болька, бо яе пачуцьцё было праўдзівым...

І ходзіць яна сумна ад кутка да кутка, чакаючы мілага сына. Але яго няма... І толькі ад вялікае болькі ў вочах яе прамігнець цень яго, і яна ў цягу вялікага каханьня імкнецца за ім, ловіць яго рукамі... хочацца прытуліць... пацалаваць... і гэтак на грудзі яго памерці. Але не! Гэта толькі зданьне,— якое больш надрываець сэрца маці.

Маці верыць, верыць жудасна ў тое, што ўбачыць свайго роднага сына. Гэта моцная і балючая надзея не дае маці палагодіць сваё сэрца са стратай, не дае слязьмі разьвеяць свае гора па людзёх.

Ходзіць яна сумна... ходзіць дзень... месяц, другі... Чакае вестачкі ад радзімага. Але не адгукваўся ён з той далёкай старонкі, куды стаўся загнаны ён—мілы сын... І ўзбялелыя вусны яе шапталі ціхую малітву, прасілі літасьці, „Акрый Божа Вялікі, вазьмі пад апеку сваю майго сына“.

Сьціхалі вусны яе, і вочы глядзелі кудысьці... далёка, далёка.

Цяклі дні сумна гаротнае...

Раз у ночы яна відзела: Там за гарамі і лясама ідзе крывавая бойка .. Цёмная ноч насупілася і змоўклі стогны. І толькі ўзыйшоўшае сонца сваімі праменьнямі асьвеціўшы, цалавала крывавае поле, па яком валяліся маціны дзеці... халодныя... закачанеўшыя... з застыўшым на твары жахам перад ненасытнай сьмерцю. І яшчэ больш страшней ды балючай стала старой маці... Бо яна відзела яго там... сваё каханае дзіцянё...

пасьля магілку высокую высокую—да самага неба, і потым нямога сьведку—белы крыж... І прачнуўшыся, з болькаю ад страшнага зданьня ночы, яна, моцна молячыся, плакала цэлы дзень...

Завыў вецер жаласьліва, па ваконцам асірацелае маці, над яе доляй-бяздольлем, над яе адзінокім жыцьцём.

Цяпер і яна, забытая ўсімі, занэнканая горам, сьпіць у сырой зямельцы... Ніхто ня ведаў болькі яе... Толькі ціхай ноччу, над яе магілкай, адпраўляючы хаўтуры, плачуць ясныя зоркі.

# Літва.

## Дзяржаўны бюджэт у кабінэце міністраў.

Міністэрства фінансаў ўнясло для абгавору Кабінету міністраў росьпісь дзяржаўных даходаў і расходаў на 1927 год. Бюджэт прадугледжвае 226 міліёнаў літаў звычайных і 3 міліёны літаў надзвычайных даходаў. Такім чынам, агульная сума дзяржаўных даходаў па росьпісі на 1927 год складае 227 міліёнаў літаў. У росьпісі даходаў на 1926 год звычайных даходаў было прадугледжана 238 міліёнаў літаў, а надзвычайных—4 міліёна літаў.

Расходы ў росьпісі на 1927 год па асобным артыкулам раскладзены гэтак (у скобках каштарысныя прэдначартаньні на 1926 год):

1) Прэзыдэнт Рэспублікі 221 тысяча літаў (258 тыс. л.), 2) Сойм 1.380 тысяч літаў (1.550 тыс. л.), 3) Кабінэт міністраў (1.370 тыс. літаў (1.720 тысяч л.), 4) міністэрства ўнутраных спраў 19.217 тысяч літаў (22.474 тыс. л.), 5) міністэрства фінансаў 17.690 тыс. літаў (17.860 тыс. л.), 6) міністэрства земляробства 17.167 тысяч літаў (18.910 тыс. л.), 7) міністэрства асьветы 32. 816 тысяч літаў (30,544 тыс. л.), 8) міністэрства шляхоў 76.642 тыс. літаў (60,417 тыс. л.), 9) міністэрства замежных спраў 3.683 тыс. літаў (3.999 тыс. л.), 10) міністэрства справедлівасьці 8.085 тыс. літаў (8.148. тыс. літ.), 11) міні-

стэрства абароны 40.150 тыс. літаў (41.814 тыс. л.) і 12) дзяржаўны кантроль 1.110 тысяч літаў (1.131 тыс. л.).

Апроч гэтага, першы раз у росьпісь уключаны спецыяльныя расходы: разрахунак з Клайпецкай обласьцьцю — 6.600 тыс. літаў і пэнсіённы фонд—869 тыс. літаў.

Пасьля абгавору Кабінэтам міністраў бюджэт будзе ўнесен на разгляд Сойму не пазьней 15 кастрычніка сёл. г.

## Яшчэ прыгавар.

Беларускае жыхарства Еў'інскай вол., Троцкага павету склала прыгавар аб **адчыненьні беларускай пачаткавай школы** ў м. Еў'і ў сёлеташнім навучальным годзе. Прыгавар скіраваны да п. Міністра Асьветы.

**Ад рэдакцыі.** Насколькі нам ведама беларуская насельнасьць Еў'інскай вол. дабіваецца беларускай школы з 1922 году і іх жыцьцёвае і законнае дамаганьне ня лічылі патрэбным задаволіць.

Будзем спадзявацца, што на гэты раз нашае жыхарства дачакаецца беларускай школы і будзе мець магчымасьць навучаць дзетак у роднай мове.

## Латышы аб Вільні.

Са старых часоў латышы падлашчваюцца да палякоў і робяць ўсё, каб спадабацца паном. Апошнім часам іхнія часопісі часта-густа пішуць **аб Вільні, як аб адвечна польскім месьце.** Але ёсьць і сярод латышоў людзі, што разумеюць гэтую справу іначэй. Ось і часопісь „Latvijas Sargs" (Вартаўнік Латвіі) піша ад IX. 16: **Толькі Літва мае правы на Вільню і толькі да Літвы мусіць належаць Вільня.** Палякі захапілі Вільню і трымаюць яе у сваіх руках толькі праз дапамогу французаў. Гэтым тлумачыцца і пастанова Сувязі Народаў, якая паверыал ў польскія запэўненьні аб шкодным дзеля Эўропы палітычным кірунку Літвы. **Малыя народы, што будуюць сваю незалежнасьць на ўснове права, ня могуць спагадаць палітыцы польскага кулака. Хто яе трымаецца, той падпісвае сабе сьмяротную пастанову.**

**Ад рэдакцыі.** Хто-ж ведае, ці зразумеюць латышы горкую праўды гэтых слоў? Дзеля Пілсудзкага іхняя старонка толькі „Polskie Inflanty"!!!

**Курсы зямельнай гаспадаркі** праслухалі сёлета ў Коўні 48 настаўнікаў. 17. IX яны дасталі атэстаты і вярнуліся да сваіх школ. Гэткія самыя курсы у Датнове скончылі 4. XI 31 настаўнік.

**Унівэрсытэт** сёлета будзе мець блізка 3000 студэнтаў. Прынята новых больш як 1000.

**Бязвочлівы звод.** Як той кажэ: „немец і малпу вынайшоў“. Але што там, на малпе вялікіх грошай не запрацуеш. Лепей з дурнямі папрацаваць! Дык вось нейкі Прэйшат (Preuschatt) з Бэрліну абвесьціў у тутэйшых часопісях, што бярэцца абменяць на праўдныя грошы нямецкія папяровыя білеты—по 1000, 100, 50 і 20 марак, што выйшлі да 1919 году. Трэба было аб тым яму напісаць і паслаць 10 ці больш літаў на адказ і „на захады“. Шмат хто паслаў грошы, але адказу, мусіць, дачакаюць на „сьвятое ніколі“.

**Новы біскуп** Віленскі Ялбржыковскі (цяжка вымавіць натшча!) ўжо прыехаў да Вільні. **Урачыстасьці яго „інгрэсу“ адбыліся па-латынску і па-польску.** Бач, гэтыя мовы Богу дагодны, ня то што літоўская ды беларуская, што ужываюць самі гаспадары і адвечныя насельнікі Віленшчыны.

**Мост Прэзыдэнта Грынюса** адчынен у Клайпедскім краю 15. IX. Мост мае 3000 мтр. даўжыні. Ен пабудаваны на раце Шлажы.

**Халера у Літве!** Нехта у Клайпедзе дамысьліўся вось да чаго: падаў вестку быццам з мяст. Шадов аб тым, што тамака захварэла на халеру 300 людзей! Але самі шадоўцы аб тым нічога ня ведаюць і, прачытаўшы аб халеры у часопісях, чэшуць патыліцы дый кажуць: „каб яго халера!“.

**Згінула бібліятэка.** Каштоўная бібліятэка графа Тышкевіча у Чырвоным Дварэ прадана немцам і кудысьці згінула.

—·—

**Вайсковую школу.** 7. IX скончылі 21 лейтэнант. Прэзыдэнт Рэспублікі кожнаму даў шаблю і загадаў **„Бяз патрэбы ня падымай, бяз чэсьці не апускай“.** Новых прозьбаў аб прыему у школу прынята блізка 100.

—·—

**Новая геаграфія Літвы**. Пад назовай „Litauen. Grundzüge einer Landeskunde“ пр.-дац. геаграфіі Гэтінгэнскага унівэрсытэту Др. Ганс Мортэнзэн (Mortensen) выдаў вельмі старанна зложаную геаграфію Літвы. Аўтар напісаў гэту кнігу па даручэньню Геогр. Інстытута пры Каралевецкім Унівэрсытэце. Для сваёй працы др. Мортэнзэн шырока карыстаў ўсе літоўскія, нямецкія крыніцы, атрымаў шмат матэрыялу з наšых дзяржаўных установаў і пяць разоў адбыў падарожжа па Літве. Ня мала дапамаглі яму у працы ксяндзы, якім ён злажыў у кнізе асобную падзяку.

# Радавая Беларусь.

## Інбелкульт.

**Культурнае будаўніцтва Беларусі.**

Па даным сельсаветаў і райвыканкомаў у БССР налічваецца 336.055 вучашчыхся 4-хлетак і першых канцэнтраў 7-мілетак. Усяго камплектаў у памянёных школах (разам з ж.-д. і опытна-паказальнымі)—6.891. На адзін камплект, а знача, на 1 вучыцеля прыходзіцца 48,8 вучашчыхся. Цікава, што ў мінулым годзе ў БССР падала на 1 вучыцеля па 46,5 вучняў. Такім чынам, нягледзячы на адчыненьне ў 1925/26 г. 436 новых камплектаў, нагрузка беларускага вучыцеля (найбольшая ў Саюзе) ня толькі ня зьменшылася, але павялічылася. Гэта сьведчыць аб вялікшым імкненьні жыхарства да школы.

Усяго-ж, па даным Госплана і ЦСУ Беларусі, лік дзяцей школьнага ўзросту ад 8 да 11 гадоў апрадзеляецца ў 431.260: па акруговых гарадох — 35.984, а па раёнах—395.276. Такім чынам, за выняткам абхвачаных школаю дзяцей, застаецца ў сучасны момэнт за бартом школы 195.000 дзяцей, альба 22% агульнага ліку дзяцей школьнага ўзросту.

Плян увядзеньня агульнага навучаньня ў БССР прадугледжвае ахват 4-хгадовай школай усіх дзяцей узростам ад 8 да 11 гадоў на працягу 9 гадоў, не пазьней 1934—35 г. Пасьля

ахвату ўсіх дзяцей, можна будзе ўвясьці абавязковае навучаньне ва ўсёй Рэспубліцэ: ўсе дзеці павінны будуць абавязкова хадзіць у школы і навучацца ў іх на працягу 4-х гадоў. Лічачы нармальнай нагрузкай І-га камплекту—40 дзяцей, прыдзецца на працягу 9 гадоў адчыніць новых 6.219 камплектаў, г. з. павялічыць лік іх на 90%. У першым 1926-27 годзе павінна быць адчынена 496 новык камплектаў.

Па гэтаму-ж пляну на працягу 15 гадоў прыдзецца пабудаваць новыя школьныя будынкі для 8.188 камплектаў, з іх 1.969 істнуюць у нанятых памешканьнях і 6.219 адчыняюцца ізноў. У працягу 1-га году павінна быць пабудавана новых 293 школьных памешканьні.

---

У сучасны момант адпаведнымі органамі будзе ўзят кірунак на ператварэньне Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук. Аснаўнымі заданьнямі Акадэміі будзе: вывучэньне прыроды Беларусі, яе вытворчых сілаў, мовы і гісторыі і т. п. Дзеля гэтага пляніруецца павялічэньне і замацаваньне Інстытуту новым кадрам заўсёдашніх навучных працаўнікоў.

Затым ідзе важнае пытаньне —выданьне накапіўшайся ў партфелю Інстытуту навучнае працы. Па распрацованаму пляну прэдпалагаецца выпусьціць у 1926-27 г. звыш 500 друкаваных аркушаў. Сюды ўваходзяць навучная праца і акадэмічныя выданьні беларускай мастацкай літэратуры.

Няменш важна пытаньне аб арганізацыі музэю пры Інстытуце. У кладовых Інстытуту, ў раённых музэях маецца шэраг каштоўных матэр'ялаў: абразцы глебы, сабраньне экземпляраў розных пташак, заселяючых Беларусь. Усе гэтыя матэр'ялы патрабуюць навуковай апрацоўкі, прывядзеньня ў парадак.

У зьвязку з арганізацыяй музэю насьпела пытаньне арганізацыі хімічнай лябараторыі па вывучэньню і аналізу глебы.

Вялікая праца разьвярнулася па складаньню слоўніка жывой беларускай мовы. Ўстаноўлен самы цесны зьвязак з мейсцамі, галоўным чынам, карэспандэнтамі, якія за апошнія 8 месяцаў прыслалі каля 21 тысячы слоў, непрарыўная праца па зборцы слоў і іх навуковай апрацоўцы.

Вельмі важнае пытаньне—рэформа беларускага буквара і правапісу. На працягу лета Інстытутам быў прапрацован матэр'ял, які будзе абгаворвацца на ззываемай у сьнежню навуковай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і перэгляду альфабэту. На канфе-

рэнцыі будуць прымаць удзел навуковыя працаўнікі беларусаведы з-за граніцы.

На працягу лета Інбелкультам арганізавана некалькі навуковых дасьледаваньняў Беларусі. Галоўнейшымі з адшуканьняў зьяўляюцца геолёгічныя, арганізаваныя камісіяй па вывучэньню вытворчых сілаў прыроды.

Дасьледаваны горныя пароды, знаходзячыяся ў нетрах зямлі—фасфарыты, мергелі, жалезныя руды і г. д.

У Барысаўскім і Пінскім вакругах рабілася вывучэньне складу і асаблівасьцей глебы, ў Полацкім, Мінскім і Калінінскім—геаботанічныя адшуканьні, ў Мінскім—геомагнэтычныя зьнімкі.

Зроблена этнаграфічнае абсьледдааньне паўночнай і паўночна-заходняй часткі Беларусі. Сабран таксама матэр'ял аб дамовых ремёслах сялянства. (Менская „Звезда").

**Набыцьцё бібліатэкі праф. Доўнар-Запольскага.**

ЦВК БССР асыгнаваў сродкі на набыцьцё для ІБК бібліатэкі прафэсара Доўнар-Запольскага, якая складаецца з 15 тысяч кніг; большая частка кніг адносіцца да гісторыі Беларусі і, апроч таго, ў бібліатэцы знаходзяцца каштоўныя пэрыядычныя выданьні 18 і першай паловы 19 стагодзьдзя.

**Каштоўныя гістарычныя матар'ялы аб Беларусі.**

На днях зьвярнуўся з навуковай камандыроўкі ў Адэсу і Кіеў супрацоўнік ІБК т. Даўгяла. У рукапісных аддзяленьнях архіваў, бібліатэк і музэяў гэтых гарадоў т. Даўгяла знашоў цікавыя матар'ялы, вельмі каштоўныя для гісторыі Беларусі. У Кіеве ў цэнтральным архіве старажытных актаў захованы справы былога Менскага гэнэрал-губарнатарства, якія адносяцца да канца 18-га стагодзьдзя, а таксама розныя акты, якія датычацца Мазыршчыны.

Асабліва шмат гістарычных матар'ялаў знойдзена ў рукапісных аддзяленьнях кіеўскай дзяржаўнай бібліатэкі, тут сабраны архіўныя дакуманты былых прафэсароў кіеўскай духоўнай акадэміі Пятрова, Галубова, Цітава і інш. Значны лік невядомых нам рукапісаў і рэчаў знойдзены ў бібліатэцы кіеўскага ўнівэрсытэту і ў музэі, адчыненым пры Кіеўскай лаўры.

У Адэсе захаваліся граматы, якія знаходзяцца ў адэскім гісторыка-археолёгічным музэі і ў адэскай публічнай бібліатэцы.

## У Дзяржаўнай Бібліатэцы.

**Выстаўка кніг.**

У Дзяржаўнай Бібліатэцы хутка адчыніцца выстаўка кніж-

ных навінак выданьня 1926 г. На выстаўцы будуць сабраны ўсе выпушчаныя ў 1926 г. на тэрыторыі СССР кнігі.

**Колькі беларускіх кніг у бібліатэцы.**

Зараз Беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліатэкі налічвае 3.000 беларускіх кніг.

У аддзеле сабраны амаль усе кнігі, якія выйшлі за час беларускага друку.

**Летапіс беларускіх кніг 1917-26 г.**

Беларускі аддзел Дзяржаўнай Бібліатэкі рыхтуе да друку летапіс беларускіх кніг, якія вышлі за пэрыяд 1917-26 год.

Летапіс будзе выданы для шырокага карыстаньня.

**Выяўленьне помнікаў старасьветчыны.**

Камісія па ахове помнікаў старасьветчыны пры ІБК за апошні год правяла значную працу па выяўленьні помнікаў гісторыі, культуры, мастацтва і прыроды Беларусі. Па акругах і раёнах складзены апісаньні выяўленых помнікаў, якія абвешчаны дзяржаўнай маемасьцю.

Зараз рыхтуецца выпуск падрабязнага апісаньня помнікаў Менску. Загатоўлена звыш 300 фатаграфічных здымкаў г. Менску і яго ваколіц (старажытныя вуліцы, пляцы, сады, паасобныя будынкі і інш).

Гэткая самая праца па апісаньні помнікаў старасьветчыны праведзена ў Полацку, дзе ўжо закончана апісаньне старажытнае Сафійскае катэдры, як помніку першага на абшарах сучаснай Беларусі мураванага будынку 11-12 стагодзьдзя.

## Краязнаўства.

**Досьлед ракі Сьвіслачы.**

Вярнуліся з экспэдыцыі сябры краязнаўчага т-ва пры БДзУ, якія рабілі досьлед ракі Сьвіслачы.

Экспэдыцыя цягнулася два тыдні. На месцы досьледаў удзельнікі экспэдыцыі знайшлі шмат цікавых рэчаў старажытнасьці.

**Краязнаўчы музэй пры БДзУ.**

Краяанаўчае т-ва пры БДзУ адчыняе свой асобны краязнаўчы музэй. У апошнім будуць сабраны ўсе матар'ялы работ краязнаўчага т-ва.

**Заграцічныя навуковыя камандыроўкі.**

Наркамзем хадайнічае перад Сав. Нар. Кам. аб дазволе навуковых камандыровак заграніцу (Данія, Нямеччына, Галяндыя і Англія) для падрыхтоўкі высокакваліфікан. спэцыялістаў па малочнай і бэконнай прамысловасьці.

Усяго намечана камандыраваць 12 асоб: 10—па малочнай прамысловасьці і 2—па бэконна-сьвінаводнай.

Гэтыя камандыроўкі выклікаюцца моцным разьвіцьцём у

БССР сеткі малочна-прамысловых прадпрыёмстваў і намечаным адчыненьнем бэконных фабрык.

### Культ-асьветная праца сярод нацменшасьцяў БССР.

**(Па матар'ялах Нацкамісіі ЦВК БССР).**

За апошні год культ-асьветная праца сярод нацыянальных меншасьцяў БССР значна пасунулася наперад. Пашырана сетка нацыянальных школ. У 1924-25 г. існавала 142 яўрэйскіх школы, у якіх навучалася 19088 дзяцей, у 1925-26 навучальным годзе ўжо было 176 аднакамплектных яўрэйскіх школ, у якіх навучалася 22.090 дзяцей.

У галіне польскага школьнага будаўніцтва ўзяты правільны напрамак і ёсьць значнае дасягненьне. У апошнія часы адчынена 12 новых польскіх школ.

Апроч таго, у нас існуе 17 латыскіх школ (29 камплектаў) і адна літоўская школа.

Палепшылася культ асьветнае абслугоўваньне дарослага насяленьня. Зараз існуе 8 польскіх хатчытальняў; пры польскіх школах былі арганізаваны ліквідацыйныя пункты, у якіх навучалася пісьменнасьці каля 1.000 чалавек.

Яўрэйская мова ўведзена ў большасьці школ прафэсыянальнае асьветы. Таксама палепшылася праца яўрэйскае сэкцыі пэдфаку ВДУ, куды запрошаны новыя яўрэйскія працаўнікі.

Каб забясьпечыць латыскія школы ў БССР патрэбным кадрам настаўніцтва, дадзены стыпэндыі студэнтам-латышам з Беларусі, якія навучаюцца ў Ленінградзкім латыскім пэдтэхнікуму.

У далейшей працы Нац. Камісія лічыць патрэбным зрабіць захады да лепшага матар'яльнага забясьпечаньня ўсіх школ нацменшасьцяў.

Трэба адчыніць большы лік сямёхгодак для дзяцей нацменшасьцяў і наладзіць пры іх інтэрнаты, калі школы маюць раённае значеньне.

У галіне культ-асьветнай працы сярод яўрэйства, трэба прадаўжаць перавод школ на яўрэйскую мову, калі там навучаецца большасьць яўрэйскіх дзяцей. Сярод настаўніцтва трэба ўзмоцніць палітычную працу, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўясьненьне сутнасьці савецкай улады і растлумачаньня ашуканства сыянізму.

У галіне культпрацы сярод палякоў— трэба зрабіць захады да ліквідацыі дагаворных школ шляхам унясеньня іх у бюджэт. У 1926-27 навучальным годзе трэба адчыніць польскую школу сялянскай моладзі і пашы-

рыць сетку дашкольных установаў.

Б. Дз. Выд. павінна паруліцца аб тым, каб забясьпечыць польскую школу патрэбнымі падручнікамі.

Лічыцца патрэбным узмацніць у БДзУ цыклы польскай культуры (гісторыі, літаратуры, мастацтва, эканомікі), а таксама ўтварыць катэдру на польскай мове па гісторыі, літаратуры і мове. Трэба зрабіць захады да павялічэньня ліку студэтаў у вышэйшых навучальных установах, рабфаках і прафшколах.

**Каб ажывіць працу па літоўскай мове, у 1926-27 г. трэба адчыніць новыя літоўскія школы ў літоўскіх сяленьнях Віцебскае, Калінінскае, Аршанскае, Магілеўскае і Барысаўскае акругаў і зрабіць захады да залучэньня ў адчыненыя школы настаўнікаў-літоўцаў.** Трэба паруліцца аб выданьні лемантара і першаи кнігі для чытаньня на літоўскай мове.

Пры камплектаваньні Магілеўскай савецкай партыйнай школы ГалоўпалІтасьветы павінна зрабіць захады да падбору літоўцаў для нізавой работы сярод літоўскага жыхарства.

# Прамысловасьць, сельская гаспадарка і каапэрацыя.

### Пасяўная кампанія.

#### Агрыкультурныя мерапрыёмствы.

Акрамя чыста гаспадарчых мерапрыёмстваў, у працягу асеньняй пасяўной кампаніі будзе праводзіцца шэраг агрыкультурна-паказальпых мерапрыёмстваў, якія павінны давесьці насельніцтву выгады ад культурнай працы ў сельскай гаспадарцы.

Арганізацыя паказальных мерапрыёмстваў выявіцца ў выглядзе закладкі паказальных вучасткаў і ўтварэньня гаспадарча-паказальных радавых пасеваў.

Задачай гэтых вучасткаў зьяўляецца выявіць уплыў ачысткі, сартыроўкі і пратраўліваньня насеньня на ўраджай, дэманстрацыя ўплыву палепшаных гатункаў насеньня, дэманстрацыя розных відаў папару, выявіць уплыў і эканамічны эфэкт розных занятых папараў і мінэральных угнаеньняў на азімыя культуры, у прыватнасьці фосфарна-кісла-фасфарытнай мукі на падзолісты грунт.

На кожным агранічным пункце намячаецца залажыць ня менш 6-ці вучасткаў, а ўсяго па БССР ня менш 600 вучасткаў.

Як асобны паказальны, спосаб рацыянальнага паляводзтва павінны зьявіцца дэманстрацыя радавых пасеваў азімых культур. Для гэтай мэты будуць скарыстаны ўсе маючыяся на пракатных пунктах 100 радавых сеялак.

У адпаведнасьці з наліччам сеялак на пракатных пунктах намячаецца правесьці радавыя засевы: у Менскай акрузе—на плошчы 120 дзэс, у Барысаўскай—на 20 дзес., у Бабруйскай—на 200 дзес, у Слуцкай —на 140 дзес., у Мазырскай—на 140 дзес., у Віцебскай—на 120 дзес., у Полацкай—на 40 дзес., у Магілеўскай—на 500 дзес., у Калінінскай—на 520 дзес., а ўсяго па БССР на плошчы 2.000 дз.

Дзеля дасягненьня найлепшых вынікаў і каб больш мэтазгодна скарыстаць сеялкі, праца па радавых засевах будзе згрупована ў калектыўных гаспадарках і пасёлках—на папарах больш распрацаваных (бульбяных).

У бягучую пасяўную кампанію нашы дасьледчыя станцыі будуць таксама рабіць досьледы з азімымі пасевамі ў 30 сялян—дасьледчыкаў. Гэтыя досьледы будуць весьціся па Аршанскай акрузе ў 5 сялян, па Калінінскай—у 2 сялян, Бабруйскай—у 4 сялян, Барысаўскай—у 3 сялян, Менскай у 5 сялян, Слуцкай—у 2 сялян, Віцебскай—у 4 сялян, Пол цкай —у 2 сялян і па Мазырскай—у 3 сялян.

Акрамя закладкі паказальных вучасткаў, арганізуецца засеў азімых культур у гаспадарках, якія пераходзяць на грамадзкія мнагапольныя севазвароты.

Практыка вядзеньня многапольля за мінулыя 2 гады паказала, што 40—50 проц. грамадзкіх палепшаных севазваротаў праводзіцца ў часе асеньняй пасяўной кампаніі. Пры гэтым засеў азімага кліну ўжо з восені робіцца ў межах новага севазвароту. А таму вельмі важным момантам працы па многапольлю зьяўляецца ўзмацненьне ўведзеных севазваротаў у вясковым пэрыядзе.

Дзеля гэтага раён领 аграномічны пэрсанал павінен арганізавапь нагляд за засевам инвгапольшчыкамі азімага кліну і ўзмацніць сваю ўвагу да пасёлкаў з грамадзкімі севазваротамі.

Разьмер працы па арганізацыі многапольных севазваротаў намячаецца на плошчы 98.400 дзес. (падрыхтоўка на плошчы 45.000 дзес. і праверка на плошчы 53.400 дзес.).

**Здаваленьне насельніцтва мінэральным угнаеньнем.**

Мінэральныя ўгнаеньні зьяўляюцца, бязумоўна, адным з гаспадарчых спосабаў палепшаньня ўраджаю.

Попыт насельніцтва БССР на мінэральныя ўгнаеньні узрастае, пачынаючы з 1923 г., з з кожным годам. У 1925 годзе было разьмеркавана больш 200.000 п. мінэральных угнаеньняў, а попыт застаўся далёка не здаволеным. У працягу вясеньняй пасяўной кампаніі насельніцтва атрымала 160.000 п. мінэральных угнаеньняў.

Найвялікшi попыт выяўляецца ў працягу асеньняй пасяўной кампаніі пераважна на наступныя віды мінэральных угнаеньняў: на тамасшлак, супэрфасфат і фасфарытную муку.

Пасьля вясеньняй пасяўной кампаніі на складах Цэнтраземскладу і ў с.-г. каапэрацыі засталося каля 130.000 п. мінэральных угнаеньняў. Улетку гэтыя арганізацыі загатовілі яшчэ 253.000 п. угнаеньняў.

Адзначаная колькасьць мінэральных угнаеньняў разьмяркоўваецца па акругох БССР наступным чынам: Менская акруга—22.250 пуд., Барысаўская —7.825 п., Бабруйская—4.200 п., Слуцкая—3800 п., Мазырская—945 пуд., Віцебская—145.000 пуд., Полацкая—70.450 п., Аршанская—98.540 пуд., Калінінская—24.010 п. і Магілеўская—5.000 пуд.

Усяго, такім чынам, разьмяркована 21.280 пуд. тамасшалку, 258.000 пуд. супэрфасфату, 11.240 п. фасфарытнай мукі і 81.909 п, касьцяной мукі.

Пры продажы насельніцтву мінэральных угнаеньняў даецца кароткатэрміновы крэдыт у працягу аднаго году (на адзін ураджай).

**Тэхнічная дапамога сялянству.**

**(Да арганізацыі с.-г. майстэрняў).**

Дзеля тэхнічнай дапамогі сялянству ў рамонце важнейшых с.-г. машын, Дзярж. Плян. Камісія пастанавіла арганізаваць у 1926-27 апэрацыйным годзе, у выглядае вопыту, 21 майстэрню.

На арганізацыю майстэрняў асыгнавана 135.000 руб. безваротнай пазыкі, якая будзе выкарыстана таксама і на забясьпечаньне майстэрняў запаснымі часткамі да розных с.-гаспадарчых машын і сырцом.

Месца пабудаваньня майстэрняў будзе збірацца Цэнтраземскладам па згодзе з мясцовым акруговым выканаўчым камітэтам.

Для кіраваньньня працай майстэрняў пры кожным акруговым зямельным аддзеле будзе знаходзіцца спэцыяльны інструктар.

Апроч таго, на абавязку інструктара будзе ляжаць папулярызацыя машын сярод сялянства, навучаньне сялян, як карыстацца машынамі і г. д.

Дзярж. Плян. Камісія пастанавіла таксама адчыніць у кожнай акрузе 2-хтыднёвыя курсы (на 12 чалавек), дзе будуць папаўняць сваю кваліфікацыю розныя майстры.

Апроч практычнага вывучаньня тых с.-гаспадарчых машын, якія зараз ужывае сялянства, прымаюцца захады да вывучэньня і тых машын, якія маюць распаўсюджвацца.

Асыгнована 3.500 р. на выданьне для ўсіх хатаў-чытальняў і вясковых школ спэцыяльных кніжак, дзе будзе зьмешчана дакладнае апісаньне машын, як іх захоўваць пасьля сканчэньня працоўнага дню, як захоўваць на зіму, як карыстацца машынамі і г. д.

Усяго на арганізацыю с.-г. майстэрняў асыгнована — 167.500 р.

**Сельска-гаспадарчыя машыны для Беларусі.**

Агульны плян абслугоўваньня сельскай гаспадаркі Беларусі на 1926-27 год сродкамі вытворчасьці вызначан у суме 12128401 р.

На сельска-гаспадарчыя машыны і прылады вызначана 4.852.998 руб.

**Крэдыт—сялянству.**

За мінулае паўгодзьдзе Белсельбанк выдаў сялянству пазык на суму 4.399.000 руб.

Большасьць гэтых грошай выдана бедняком на куплю коняў і неабходных с.-г. прылалаў.

**Навукова-дасьледчая праца па мэліярацыі.**

Аддзел воднае гаспадаркі і мэліярацыі пры Наркамзему правёў буйную навуковаласьледчую працу па мэліярацыі ў Мазырскай і Слуцкай акругах.

Для кіраўніцтва працай былі вызначаны 5 прафэсараў-спэцыялістаў.

Дасьледчыя групы сабралі значны матар'ял, які зараз апрацоўваецца Наркамземам.

**Земляўпарадкаваньне будзе закончана ў 8 гадоў.**

Воўлуг апошняга пляну Наркамзему, земляўпарадкаваньне ў БССР будзе праведзена канчаткова ня ў 10, як было вызначана раней, а ў 8 гадоў.

Плянавае заданьне 1925-26 г. будзе выканана поўнасьцю.

# Заходняя Беларусь.

## Міжпартыйны Камітэт для барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў у Пінску.

Дня 26 ліпеня г. г. адбылося супольнае паседжаньне прадстаўнікоў жыдоўскай сацыял-дэмакратычнай работніцкай партыі Поалейсыон, незалежнай партыі хлопскай, беларускай сял.-работніцкай Грамады і лявіцы 2 прафэсыянальных саюзаў. Пастаноўлена залажыць міжпартыйны Камітэт для барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў і залегалізаваць яго ў старостве.

Камітэт тымчасова памяшчаецца на Дамініканскай вуліцы № 39. На тым-жа паседжаньні прынята пастанова адносна сацыял-згоднікаў, якая гучыць:

Міжпартыйная нарада сцьвярджае: 1) што ППС, „Бунд“, „правыя поалейсыянеры“ ня прыслалі сваіх прадстаўнікоў што гэты пастулак зьяўляецца спробай зрабіць адзіны фронт!

2) што ППС. „Бунд“ і „правыя поалейсыянеры“ сваей палітыкай і тактыкай адцягіваюць масы ад праўднай барацьбы за амністыю і тым самым прыслужываюцца буржуазіі.

З тае прычыны нарада рашае:

1) зьвярнуцца да ППСаўскіх і др. мас, каб супольна з імі вясьці акцыю;

2) лічыць ППС, Бунд і правых поалейсыяністаў здраднікамі працуючых мас; 3) вітаць ППС лявіцу, якая парвала зносіны з партыяй згоднікаў і ашуканцаў.

**Увага рэдакцыі.** Беларускія нацыянальныя арганізацыі распачалі кампанію за вызваленьне (амністыю) палітычных вязьняў з польскіх турмаў. У рожных мяйсцовасьцях адбыліся беларускія сходы, на якіх былі прыняты рэзалюцыі аб звальненьні палітычных вязьняў. У гародах на розных будынках зроблены надпісы: „Амністыя палітычным вязьням!“ Такога самага зьместу развешаны плакаты па калеях жалезных дарог. Як у Вільні, так і ў іншых мяйсцовасьцях адбыліся ў гэтай справе дэмонстраныі. Некаторыя з іх былі разагнаны аружнай сілай. Прыкладам, у Паставах дэманстрацыя (арганізава-

ная Гуртком сялянска-работніцкай Грамады) у працягу некалькіх гадзін вела змаганьне з коннай і пешай паліцыяй, якая не дапушчала дэманстрантаў, жадаўшых звольніц палітычных вязьняў, да турмы. Як відаць, жыхарства зразумела баламуцтва ППС, разуверылася ў зычлівых абецанках і справу вызваленьня палітычных вязьняў узяло ў свае рукі.

---

# Латвія.

## КНІГАПІС.

**Першы крок.** Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі, Рыга Т-ва Беларўсаў—Выбаршчыкоў, 1926. 88 бал. Кошт 1 лат. 50 сант. (3 літа).

У альфабэтным парадку надрукаваны вершы 20 маладых паэтаў.

Вось што замест ўступу кажуць яны:
„Што у сэрцы гарыць,
„Што у думках крычыць,
„Што шчасьліва, ці цяжка хвілюе—
„Дамагалісь злавіць,
„Дамагалісь адбіць
„І злажыць у радкі,
„Як маляр на халсьціну малюе.
„Ці удалось гэта нам,
„Ці мы варты чаго—
„Мы на суд пасылаем старэйшым.

Дык што ж. Дамагаліся і злавілі! Дамагаліся і адбілі! Адбілі жыцьце, хоць і не заўсягды гладкімі, ня усюды гучнымі, але-ж сваімі роднымі, беларускімі вершамі...

Шмат вершаў грамадзкіх... Гэта добра, бо беларусы ў Латвіі мусяць цяпер на гэты бок зьвярнуць увагі больш за ўсё. Ідзе барацьба за права называцца беларусам, бо ўжо не ўтаіш, якім шляхам ідзе Латвія--сьледам за дзедам--Пілсудзкім!

З паэтаў маладых К. Езавітаў хіба ня будзе найбунейшы. Ў яго вершах адчуваеш такую моц, такое пераконаньне, такую веру, што радасьць агартае душу, калі ўспамянеш гэ-

Першы крок! Дык—жа рушце далей, браты! Хай у бліжэйшай будучыне і мы пачуем вашыя крокі і скажам адзін да другога: „Аж дрыжыць зямля, як ваякі ідуць, бы пяюць, як бура“...

*Алесь Смаленец.*

1926. VIII. 27.

Kaunas, Літва.

---

**Бярыцеся усе эа навукова—дасьледчую працу.** Шырокую дасьледчую працу ва ўсіх галінах краязнаўства вядзе Цэнтр. Бюро Краязнаўства пры Інстутуце Белар. Культуры ў Менску. Каб зьбірачы здабыткамі белар. культуры лягчэй маглі-б кіравацца у сваей працы, выдана у Рызе пад вышэй паменёнаю назоваю гэтая маленькая брашура—перадрук падобнага выданьня Інстутуту Беларускай Культуры.

См. А.

**Ад рэдакцыі.** Гэтую брашурку можна набыць: Kaunas, B-vė Knyga, Laisvės Al. 52.

---

## Сход беларусоў.

На 10 кастрычніка сёл. г. ў 4 гадзіны па паўдні ў памешкані расейскай гімназіі (Vytauto pr., 20 Nr.) Ініцыятыўная група Ковенскага Беларускага нацыянальнага Гуртка склікае сход беларусоў для выбараў Праўленьня.

Просяць усіх беларусоў зьявіцца на вышэй паменёны сход.

**Ініцыятыўная група.**

---

Redaktorius-leidėjas **E. Gaidukevičius.**

Рэдактар-выдавец **Е. Гайдукевіч.**

тага чалавека: Бачыў яго у 1935 г. барадатага, змарнелага у Рыжскай турме. Але волі ня зламалі і „Марш адраджэнца“— рукавічка рыцара у твар ворагам:

„На пяць кавалкаў Народ наш пабіты,
„Падзёрта Зямля на шматкі—берагі!
„Права, Братэрства і Гонар забыты!
„Зьніклі сябры,—наўкол толькі врагі!
„Дык не чакай же ніскуль дапамогі,
„Уласным натугам да Долі ідзі!
„Зубы сьціскай!—Хай ў крыві будуць ногі!
Падай!... Уставай!... Абязсілеў,—паўзі!“

Але ня паўзуць беларусы ў Латвіі, не, яны йдуць і хоць яшчэ крок іх нясьмелы, але цьвёрды.

Да барацьбы за права звацца сваім імем, да мужнасьці, да вытрываласьці клічуць яны свой народ.

„Ня ный!—Ня плач!“ Ось іх лёзунгі...

Нават вера у іх новая:
„У куце больш ня маю бажніц,
„Мапа там. А на ей—Беларусь.
„Ей аднэй я цяперка малюсь.
„Перад ей штодня падаю ніц.“

У гэтай веры пачатак перамогі.—
„Абманулі нас ўсе—
„Усе змушалі чакаць!
„Не чакай!
„У чаканьні—нам сьмерць!
„Не на мары адны,
„Не на словы і сны,—
„На жыцьцё трэба рух абаперць!“

Іначэй і быць ня можа, бо моладзь што дала свае творы да зборніку, абаперла свой адраджэнчы рух толькі на жыцьцё і будуець сваю будучыню на моцных, нязрушных падвалінах.

Што да мовы, дык тут трэба доўга і упорчыва працаваць маладым нашым песьнярам над сваімі творамі, больш апрацоўваць іх, дабівацца каб была гармонія між зьместам а формай.

Беларусы Літвы і Латвіі,

**ЧЫТАЙЦЕ І ВЫПІСЫВАЙЦЕ**
**СВАЮ АДЗІНУЮ Ў БАЛТЫЦЫ**
**:: БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ ::**

# „ГОЛАС БЕЛАРУСА“.

Газэта **„Голас Беларуса“** абслугоўвае патрэбы беларускае меньшасьці ў Латвіі і Літве, дае вычэрпываючыя інфармацыі аб жыцьці беларускае эміграцыі ў Эўропе, Амэрыцы, безстаронна высьветляе ход жыцьця ў Савецкай Беларусі і пад Польскай акупацыяй. ::

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Кошт газэты:** | за год — | 3 латы, | або 6 | літаў, |
| | за паўгода — | 2 „ | „ 4 | „ |
| | за чверць году- | 1 „ | „ 2 | „ |

**Адрас: Redakcija „Голас Беларуса“,**

**Riga, Dzirnavu ielā, 33.**

---

**Таксама можна выпісаць „Голас Беларуса“ і праз**

**B-vė „Knyga“, Kaunas, Laisvės Al., 52.**

Магазын і бібліатэка

# B-vė „Knyga“

**Laisvės Al., 52.**

---

Атрыманы навіны па ўсім галінам навукі літэратуры, тэхнікі на рожных мовах; а таксама вучэбнікі і падручнікі для ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школ.

**Шырока прадстаўлен**

## нотны аддзел,

як да-вайсковага, так і пасьля-вайсковага часу.

**АДЧЫНЕН**

## Беларускі аддзел.

Меюцца кнігі друкаваныя як у Літве, так і па-замежамі

**Бібліатэка безупынна папаўняецца навінамі кніжнага рынку.**

За карыстаньне кніжкамі з бібліатэкі плата 4 л. на месяц, з вучняў—3 літы.

**Пры бібліатэцы адчыняецца беларускі адзел.**

Карыстаньне беларускім адзелам бібліатэкі на льготных варунках.

**B-vė Knyga** прыймае падпіску на ўсе беларусскія часопісі, выходзячыя як у Літве, так і замежамі Літвы.

Праз B-vė Knyga можна выпісываць уселякія кнігі з закардону.